


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

ЛЮТЫ 2016 г. № 2 (61)


## КАЛОНКА НАВІН

**У студзені 2016 года** індэкс спажывецкіх коштаў у Беларусі на тавары і паслугі вырас на 1,9% у параўнанні са снежнем 2015 года. Пра гэта інфармуе БЕЛТА са спасылкай на Нацыянальны статыстычны камітэт.

У прыватнасці, харчовыя тавары ў студзені падаражэлі на 1,5% у параўнанні са снежнем 2015 года і на 10,6% у параўнанні са студзенем 2015 года. Кошты на нехарчовыя тавары выраслі на 1,2% і 10,2% адпаведна.У параўнанні са снежнем 2015 года індэкс цэн і тарыфаў на платныя паслугі вырас на 4%. У параўнанні са студзенем 2015 года рост склаў 15,8%.

**Причиненный должностными лицами ОАО "Могилевский мясокомбинат" ущерб исчисляется миллиардами белорусских рублей.**

Как сообщил на пресс-конференции 3 февраля вриод начальника УВД облисполкома Александр Васильев, ОАО "Могилевский мясокомбинат" – одно из самых коррумпированных предприятий в Могилевской области. Работа по нему сейчас ведется УВД во взаимодействии с УСК и УДФР КГК по Могилевской области, прокуратурой и другими. Причиненный должностными лицами ущерб исчисляется миллиардами белорусских рублей.

**Белорусы будут оплачивать 100% реальной цены ЖКУ к концу 2018 года.**

К концу 2016 года население будет оплачивать 50% от реальной стоимости услуг, к концу 2017-го эта цифра возрастет до 75%, а к концу 2018 года жилищно-коммунальные услуги будут оплачиваться полностью.

## УСЁ ПЛАНУЕМ…

**Напачатку лютага ў райцэнтрах нашага рэгіёна адбыліся пасяджэнні райвыканкамаў, на якіх былі агучаны заданні па рэалізацыі паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў на 2016 год.**




Кіраўнікі раёнаў у зноў строга нагадалі прысутным на пасяджэннях, што выкананне даведзеных прадпрыемствам і арганізацыям заданняў будзе знаходзіцца на пастаянным кантролі і штомесячна аналізавацца. Карацей, у чарговы раз паспрабавалі нагнаць страху на падначаленых.

Калі чэсна, мне асабіста нагадала нейкі традыцыйны рытуал у дзікуноў племя мумба-юмба. Безумоўна, усе мы ставім перад сабой нейкія мэты і спрабуем іх выконваць. Аднак якраз з выкананнем планаў у нашым рэгіёне існуюць вялікія праблемы – па выніках чарговай пяцігодкі Магілёўская вобласць выканала толькі два паказчыкі з 10 запланаваных. Гэта заданне па прыцягненню прамых замежных інвестыцый на чыстай аснове (тут браты-кітайцы дапамаглі, пабудаваўшы ў вобласці цэментныя заводы, якія зараз амаль не працуюць) і па намінальнай налічанай зарабатнай плаце. Ну, па заробках якраз самі нашы ўлады парупіліся, – калі долар у 2010 годзе каштаваў 3 000 рублёў, то зараз нашмат больш за 20 тысяч, так што ў "зайчыках" такімі тэмпамі хутка і мільярды можна будзе атрымліваць. Пра запланаваны ж заробак беларусаў у 1000 долараў да канца 2015 года ніхто з чыноўнікаў чамусьці ўжо і не ўзгадвае, самім смешна…

Таму да даведзенага раённымі чыноўнікамі росту паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця я адношуся вельмі скептычна. Не трэба быць прарокам, каб разумець, што сітуацыя ў рэгіёне ў бліжэйшы час будзе толькі пагаршацца – вырастуць кошты на паслугі ЖКГ, знізяцца рэальныя заробкі працаўнікоў, рэзка скароцяцца сацыяльныя праграмы. Росту эканамічных паказчыкаў таксама чакаць не даводзіцца, бо фінансавы стан прадпрыемстваў проста жахлівы.

Пазней паглядзім, чые прагнозы мелі рацыю…

***Іван Барысаў***

## РЫГОР КАСТУСЁЎ: «КАЛІ ПРЫЙДЗЕ ЗАГАД З РАСЕІ, БЕЛАРУСКІЯ ЧЫНОЎНІКІ ХУТКА ЗМЕНЯЦЬ ПАРТРЭТ ПРЭЗІДЭНТА»

**Што будзе, калі ў Беларусь пачне рвацца «русский мир», разважалі адмыслоўцы ў праграме «Форум», якая выходзіць на тэлеканале "Белсат".**

Гісторык ды пісьменнік Анатоль Тарас нагадаў, што ідэю «русского мира» пачаў распаўсюджваць патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі Кірыла, калі ў 2007-ым годзе выказаўся, што «русский мир» там, дзе некалі была Расейская Імперыя або Савецкі Саюз. Крыху пазней гэтая ідэя трансфармавалася: «русский мир» вызначалі там, дзе ёсць расейская мова, расейская культура ці хоць нейкая частка расейскай гісторыі.

«Калі так падыходзіць, то Брайтан-Біч [раён кампактнага пражывання імігрантаў з Расеі – рэд.] у Нью-Ёрку – гэта таксама «русский мир»? Гэта вельмі зручная формула, бо калі ёсць палітычная патрэба, то можна сказаць, што «русский мир» усюды», – заўважыў Анатоль Тарас.

Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў падкрэсліў, што некалі ва Украіне бытавалі выказванні, маўляў, украінцы і расейцы – гэта браты. Анексія Крыму прынесла ўкраінцам разуменне, што Украіна і Расея – гэта розныя дзяржавы са сваймі інтарэсамі.

«Не дай Бог, што нешта падобнае адбудзецца ў Беларусі, але цалкам верагодна, што такое можа здзейсніцца: калі раптам паступіць загад з Расеі, то беларускія чыноўнікі ды вайскоўцы ў адзін момант памяняюць партрэт прэзідэнта ў сваіх кабінетах, у адзін момант зменяць сцяг з беларускага на расейскі і ў адзін момант прымуць тую палітыку, якую нам дэманструе Крэмль. Таму адназначна, што да гэтага




трэба ставіцца як да пагрозы, да гэтага трэба рыхтавацца і супраць гэтага трэба працаваць», – адзначыў Рыгор Кастусёў.

## В КРУГЛОМ БУДУТ СУДИТЬ ВОДИТЕЛЯ, КОТОРЫЙ НАСМЕРТЬ СБИЛ ШКОЛЬНИКА НА ГЛАЗАХ У МАТЕРИ

**В суде Круглянского района будут рассматривать дело по обвинению 40-летнего местного жителя, сообщает TUT.BY. 17 ноября 2015 года он насмерть сбил 9-классника.**

17 ноября около 7.30 мальчик вместе с тремя школьниками и двоими взрослыми шел на остановку, где их должен был забрать школьный автобус. Пешеходы двигались по обочине навстречу движению вдоль трассы Круглое — Славное.

За рулем Opel был житель поселка Круглое. Он выехал на встречную полосу движения и сбил подростка. От полученных травм мальчик умер на месте на глазах у матери, которая вела сына в школу.

Водитель сразу пояснил, что совершал маневр, чтобы избежать наезда на собаку. Позже выяснилось, что он был пьян.

Обвиняемый находится под стражей. Его действия квалифицировали как нарушение правил




дорожного движения лицом, управляющим транспортным средством в состоянии алкогольного опьянения, повлекшее по неосторожности смерть человека, рассказал старший прокурор отдела прокуратуры Могилевской области Александр Лазовский.

Водителю грозит наказание в виде лишения свободы на срок до 7 лет с лишением прав.

## ПРА ВЫНІКІ НЕ ЧУВАЦЬ

У мінулым 2015 годзе ў Бялыніцкім раёне выяўлена 8 злачынстваў у сферы эканомікі. Усе крымінальныя справы ўзбуджаны ў адносінах да работнікаў ААТ "Новая Друць" па ч. 1 арт. 237 Крымінальнага кодэкса РБ "Выманьванне крэдыту".

На жаль, пакуль супрацоўнікі Следчага камітэта і пракуратуры раёна нічога не паведамляюць пра вынікі разгляду гэтых крымінальных спраў, хоць гэта інфармацыя з'яўляецца вельмі цікавай для жыхароў раёна.

Бялынічане не могуць зразумець, чаму моцная гаспадарка - ААТ "Новая Друць", - пра нечуваныя поспехі і дасягненні якой пастаянна пісалі раённыя і абласныя дзяржаўныя газеты, зараз "ляжыць на лапатках". Людзі хацелі б даведацца, хто вінаваты ў нерацыянальным выкарыстанні атрыманых гаспадаркай шматмільярдных крэдытаў, і хто адказа за тое, што ААТ "Новая Друць" зараз фактычна з'яўляецца банкрутам.

# КРУГЛЯНСКІ РАЙВЫКАНКАМ АДКАЗАЎ АДПІСКАЙ НА КАЛЕКТЫЎНЫ ЗВАРОТ ЖЫХАРОЎ БЯЛЫНІЦКАГА РАЁНА

**Грамадскі актывіст з Бялыніч Пётр Шымбалёў напрыканцы студзеня атрымаў адказ з Круглянскага райвыканкама на калектыўны зварот жыхароў Бялыніцкага раёна з патрабаваннем спыніць парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства пры эксплуатацыі гідраэлектрастанцыі, якая знаходзіцца ў аграгарадку Цяцерын Круглянскага раёна.**

У адказе, падпісаным старшынёй Круглянскага райвыканкама Анатолем Шчуплянкова, падрабязна распавядаецца пра гісторыю і параметры працы Цяцерынскай ГЭС, а таксама пра поспехі Круглянскай райінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя ў змаганні з браканьерамі, аднак няма практычна ніякай інфармацыі па сутнасці ўзнятай бялынічанамі праблемы.




“Я не чакаў, што старшыня Круглянскага райвыканкама Анатоль Шчуплянкоў адкажа на калектыўны зварот дзесяткаў жыхароў суседняга Бялыніцкага раёна такой фармальнай адпіскай, - кажа ініцыятар напісання звароту Пётр Шымбалёў. – Мы скардзіліся на тое, што, у выніку непрадуманых дзеянняў пры эксплуатацыі Цяцерынскай ГЭС, перапад узроўню вады ў рацэ Друць на працягу дня часцяком складае больш за адзін метр. У выніку гэтага гіне расліннасць і іхтэафаўна, рака на тэрыторыі Бялыніцкага раёна паступова ператвараецца ў балота. Рацэ Друць наносіцца велізарныя экалагічныя страты, якія цяжка падлічыць. Адпаведныя прыродаахоўныя органы і арганізацыі Бялыніцкага і Круглянскага раёнаў чамусьці не звяртаюць на гэта ніякай ўвагі, хоць кантроль за станам навакольнага асяроддзя і выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства – іх непасрэдны абавязак. Бялынічан гэта праблема вельмі хвалюе, таму мы прасілі адказаць, якія меры будуць прынятыя для выпраўлення існуючай катастрафічнай сітуацыі на рацэ Друць. Нам жа распавялі пра тое, якія добрыя круглянскія чыноўнікі і як яны клапоцяцца пра выкананне прыродаахоўнага заканадаўства”.

Таксама напрыканцы студзеня Пётр Шымбалёў нарэшце патрапіў на асабісты прыём да старшыні Бялыніцкага раённага Савета дэпутатаў Аляксандра Асіпёнка. Па словах актывіста, удалося гэта яму толькі пасля некалькіх папярэдніх візітаў да галоўнага спецыяліста райсавета Аляксандра Карачуна. Пётр Шымбалёў кажа, што гутарка з Аляксандрам Асіпёнкам атрымалася канструктыўнай. Старшыня Бялыніцкага райсавета прызнаў існаванне праблемы са станам экалогіі на рацэ Друць у выніку непрадуманай эксплуатацыі Цяцерынскай ГЭС, і паабяцаў удакладніць сітуацыю ў прыродаахоўных органах і ў мясцовых уладаў Круглянскага раёна, а пасля даць афіцыйны адказ. Разам з тым Аляксандр Асіпёнак адзначыў, што ў яго няшмат магчымасцяў для ўплыву на Круглянскія раённыя ўлады і параіў Пятру Шымбалёву звярнуцца ў прыродаахоўныя органы Магілёўскай вобласці.

Па словах Пятра Шымбалёва, грамадскія актывісты маюць намер дачакацца афіцыйнага адказа на свой калектыўны зварот ад дэпутатаў Бялыніцкага райсавета. Калі бялыніцкія дэпутаты распішуцца ў сваёй няздольнасці станоўча вырашыць сітуацыю са станам экалогіі на рацэ Друць у Бялыніцкім раёне, актывісты распачнуць збор подпісаў пад калектыўным зваротам Магілёўскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

*Барыс Вырвіч*

## Фінанасавы калейдаскоп

**Станислав Богданкевич: К концу года доллар будет минимум по 30 тысяч.**

Это будет неизбежно, если белорусские власти не сумеют найти новые кредиты для спасения стремительно уходящей на дно экономики. Такого мнения придерживается экс-глава Нацбанка Станислав Богданкевич.

**За студзень 2016 году** золатавалютныя рэзэрвы Беларусі ў вызначэньні МВФ скараціліся на 149 млн даляраў і, паводле папярэдніх дадзеных, на 1 лютага склалі 4 млрд 26,8 млн даляраў, паведамляе Нацыянальны банк.

# ПРАКУРОР ШКЛОЎСКАГА РАЁНА: “…ПЫТАННІ СВОЕЧАСОВАСЦІ ВЫПЛАТЫ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ ЎЗНІКАЮЦЬ ПРАКТЫЧНА ВА ЎСІХ АРГАНІЗАЦЫЯХ, ПРАДПРЫЕМСТВАХ РАЁНА”

**Пракурор Шклоўскага раёна Дзмітрый Лянчэўскі канстатаваў, што ў Шклоўскім раёне паўсюдна адбываюцца парушэнні працоўнага заканадаўства ў частцы парадку і тэрмінаў выплаты заработнай платы.**




Такую выснову Дзмітрый Лянчэўскі зрабіў у інтэрв’ю, прысвечаным вынікам працы пракуратуры Шклоўскага раёна ў 2015 годзе і асноўным праблемам, якія знаходзіліся ў поле яе зроку. Інтэрв’ю з Дзмітрыем Лянчэўскім змясціла на сваіх старонках раённая газета “Ударны фронт”.

У прыватнасці, пракурор Шклоўскага раёна адзначыў, што “важным складнікам абароны канстытуцыйных праў грамадзян з’яўляецца забеспячэнне выканання кіраўнікамі суб’ектаў гаспадарання раёна патрабаванняў заканадаўства аб парадку і тэрмінах выплаты зарабатнай платы. У той альбо іншай ступені пытанні своечасовасці выплаты заработнай платы ўзнікаюць практычна ва ўсіх арганізацыях, прадпрыемствах раёна”.

Таксама Дзмітрый Лянчэўскі распавёў пра тое, што ў мінулым годзе ў Шклоўскім раёне па лініі службы па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі зарэгістравана 24 злачынства, з іх 11 – карупцыйнай накіраванасці. Такія злачынствы былі выяўлены ў сферы аграпрамысловага комплекса, жыллёва-камунальнай сферы, сферах прадпрымальніцтва і камерцыі, будаўніцтва, паштовай сувязі, органаў улады і кіравання. Удзельная вага карупцыйных злачынстваў у агульнай структуры злачыннасці склала 3%. Агульныя страты па выяўленых злачынствах – 14,6 млрд. рублёў (!).

Кандыдат эканамічных навук Пётр Мігурскі, які пастаянна пражывае ў Шклоўскім раёне, кажа, што для ўсіх жыхароў Шклоўшчыны даўно не з’яўляецца сакрэтам пастаянныя парушэнні заканадаўства ў раёне ў частцы своечасовасці выплаты заробкаў працаўнікам. На думку Пятра Мігурскага, сітуацыя з выплатай заробкаў будзе ўскладняцца і можа закрануць нават працаўнікоў бюджэтнай сферы раёна, таму нават Дзмітрый Лянчэўскі быў вымушаны агучыць існуючую праблему.

“Што мяне здзівіла – дык гэта проста вар’яцкая лічба ў 14,6 мільярдаў рублёў стратаў ад карупцыйных злачынстваў у Шклоўскім раёне ў мінулым 2015 годзе, - кажа Пётр Мігурскі. – На працягу апошніх пяці гадоў узровень карупцыйных злачынстваў у раёне вельмі вялікі, страты ад іх проста шалёныя. Аднак, складваецца ўражанне, што ўлады гэта абсалютна не хвалюе, бо сітуацыя з карупцыяй на Шклоўшчыне не паляпшаецца”.

Нагадаю, што напрыканцы 2015 года пракурор Магілёўскай вобласці Аляксандр Чадзюк на сустрэчы з журналістамі заявіў аб тым, што больш за 60% стратаў ад карупцыі ў Магілёўскай вобласці прыходзіцца на Шклоўскі раён.

Аднак, здаецца, што шклоўскія чыноўнікі і кіраўнікі чхаць жадалі на ўсе высновы пракурораў. За апошнія некалькі месяцаў на Шклоўшчыне зноў выкрыты чарговыя карупцыйныя злачынствы, здзейсненыя кіраўнікамі ААТ “Александрыйскае” на малой радзіме Рыгоравіча, пра што больш падрабязна мы таксама распавядаем у гэтым нумары “Рэгіёна”.

Мне таксама асабліва “прыкольна” тое, як нашы слаўныя беларускія статыстыкі пастаянна з імпэтам справаздачацца, што ніякіх праблем з своечасовасцю выплаты заробкаў у Магілёўскай вобласці няма, а тут іх афіцыйна абвяргае шклоўскі пракурор. Ні для каго не з’яўляецца сакрэтам, што сітуацыя з заробкамі ў нашым рэгіёне проста катастрафічная, - іх памер стабільна падае, у сельскагаспадарчых прадпрыемствах пастаянна парушаюцца тэрміны выплаты заробкаў. Аднак мясцовыя статыстыкі гэтага чамусьці не заўважаюць, аддаючы перавагу таму, каб бяздумна выконваць загады раённых кіраўнікоў, прыхарошваючы паказчыкі ў развіцці раёнаў.

*(Заканчэнне на стар. 5)*

## ПРАКУРОР ШКЛОЎСКАГА РАЁНА...

*(Закaнч. Пачатак на стар. 4)*

Праўда, пазней яны правяраюць атрыманыя статыстычныя дадзеныя і з задавальненнем штрафуюць складальнікаў пярвічных статыстычных справаздач, бо план па штрафам таксама выконваць трэба. У 2015 годзе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Магілёўскай вобласці правяло 153 праверкі першасных статыстычных дадзеных, з якіх у 145 выпадках (94,8% !) былі знойдзены скажэнні. У выніку праверак на 156 пасадавых асобаў складзены адміністрацыйныя пратаколы, на іх накладзены штрафы на агульную суму 454,9 млн. рублёў. Да таго ж яшчэ па матэрыялах праверак следчымі органамі ўзбуджана шэсць крымінальных спраў.

Найбольш часта скажэнні выяўляюцца пры праверцы паказчыкаў па статыстыцы сельскай гаспадаркі, фінансаў, унутранага гандлю, інвестыцый і будаўніцтва, працы, - паведамляе Галоўнае статыстычнае ўпраўленне Магілёўскай вобласці.

Так што цікава ў нас атрымліваецца: раённыя чыноўнікі прымушаюць пісаць высмактаныя з пальца паказчыкі ў справаздачах кіраўнікоў і бухгалтараў прадпрыемстваў, слаўныя працаўнікі статыстычных органаў пра гэта выдатна ведаюць, але ўсё роўна патрэбныя паперкі прымаюць. Пасля гэтага “праклятых ашуканцаў” -працаўнікоў вытворчасці тыя ж самыя чыноўнікі і статыстыкі штрафуюць пры правядзенні праверак за “скажэнне статыстычных паказчыкаў”.

Таму ў нашай краіне вельмі добра быць чыноўнікам, “рохкаць” ля бюджэтнай кармушкі, атрымліваць нядрэнны заробак, раздаючы мудрыя ўказанні і прымаючы патрэбныя для кіраўніцтва справаздачы. А працаваць на вытворчасці – прапашчая справа, бо жадаючых пакамандаваць чыноўнікаў, якія “сядзяць на бюджэце”, развялося шмат і кожны спрабуе кіраваць прадпрыемствамі, ні за што пры гэтым не адказваючы.

Вясёлая ў нас краіна…

***Барыс Вырвіч***

## БЫВШЕМУ РУКОВОДИТЕЛЮ ОАО «АЛЕКСАНДРИЙСКОЕ» ШКЛОВСКОГО РАЙОНА ГРОЗИТ ДО 10 ЛЕТ ТЮРЬМЫ

Бывшему руководителю ОАО «Александрийское» Шкловского района грозит до 10 лет тюрьмы, сообщает “Радио Могилёв”. Уголовное дело прокуратура Могилевской области уже направила в суд.

Обвиняемый в 2013 году неоднократно организовывал отпуск продукции предприятия без предварительной оплаты в адрес субъектов хозяйствования России. Этим он причинил ОАО «Александрийское» ущерб в особо крупном размере: более 3 млрд. 600 млн. рублей. Как рассказала «Радио Могилев» старший помощник прокурора области, советник юстиции Алла Кузнецова, несмотря на то, что весь ущерб государству обвиняемый возместил, его за служебную халатность и превышение слу-



жебных полномочий ожидает суровый приговор. За совершение таких преступлений предусмотрено наказание в виде лишения свободы от трех до десяти лет с конфискацией имущества или без конфискации и с лишением права занимать определенные должности или заниматься определённой деятельностью.

## Намесніца кіраўніка ААТ «Александрыйскае» заплаціла дзяржаве $200 тысяч, каб трапіць пад хатні арышт

**Следчы камітэт расследуе крымінальную справу ў дачыненні да былой намесніцы дырэктара па маркетынгу ААТ «Александрыйскае» (Шклоў), якая абвінавачваецца ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў і службовай халатнасці.**

Якое абвінавачванне выстаўлена ёй? У 2012—2013 гадах яна не вяла кантроль за аплатай тавараў па заключаных дагаворах, а таксама давала незаконныя ўказанні прадаваць мяса расійскім фірмам, якія мелі дэбіторскую запазычанасць перад «Александрыйскім» за раней атрыманую прадукцыю.

Следчыя налічылі нанесеную шкоду памерам 3,6 мільярда рублёў ($200 тысяч).

Намесніцу дырэктара пасадзілі ў ізалятар, аднак пасля гэтага яна кампенсавала бюджэту $200 тысяч і была пераведзеная на хатні арышт.

“Бедныя” у нас кіраўнікі, нічога не скажаш...

## На заслужаны адпачынак

У мінулым месяц на заслужаны адпачынак праводзілі начальніка ўпраўлення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі УУС Магілёўскага аблвыканкама палкоўніка міліцыі Міхаіла Гагіева.

Нагадаем, што Міхаіл Мікалаевіч нарадзіўся ў вёсцы Вялікая Машчаніца Бялыніцкага раёна, тут жа вучыўся ў Машчаніцкай СШ. Пасля службы ў войску ў 1981 годзе ўладкаваўся на працу ў міліцыю, дзе прайшоў шлях ад простага міліцыянера да начальніка крымінальнага вышуку УУС Магілёўскага аблвыканкама.

Міхаіл Мікалаевіч часцяком наведвае сваю "малую радзіму" у Бялыніцкім раёне, падтрымлівае добрыя адносіны з былымі аднавяскоўцамі.

# «НІ ПРАЦЫ, НІ ГРОШАЙ, НІ ТАВАРАЎ. КРЫЗІС»

**У Шклове, як і ва ўсёй Беларусі, другі месяц большасьць дробных прадпрымальнікаў, якія гандлявалі прывезенымі з Расеі таварамі лёгкай прамысловасьці, не выходзяць на працоўныя месцы. 222-ы прэзыдэнцкі указ паралізаваў іхную працу. Як мясцовыя жыхары абыходзяцца бяз звыклага гандлю?**




Невялікі рынак райцэнтру ў нядзелю не пуставаў. Наведнікаў, як падалося прыежджаму, было нямала. Бальшыня павільёнаў, аднак, былі на замку. На пляцоўцы, дзе раней выстаўляліся палаткі з адзежаю і абуткам, склікала пакупнікоў толькі гандлярка гаспадарчымі таварамі ды ейныя калегі, якія прапаноўвалі набываць вопратку ды абутак вайсковай расфарбоўкі.

«Вы ж самі бачыце, што палатак няма. Усё пуста. Выходныя дні — і людзей няма. Гэта, зразумела, кепска, — камэнтуюць сытуацыю ў адным з адчыненых павільёнаў. — Шклоў жа маленькі, куды людзі ідуць? На базар. Ля палатак пахадзілі, згадалі, што майго не купілі, зайшлі да мяне. А цяпер хто наведваецца, дык найчасьцей у павільён з харчамі. Хуценька прабягуць — і дамоў».

Суразмоўніца згаджаецца, што гандляваць трэба з дакумэнтамі на тавар. Аднак заўважае: тое, што прапануюць дробным бізнэсоўцам беларускія пастаўшчыкі, занадта дарагое. Выходзіць, кажа гандлярка, у два разы даражэй, чым прывазное з Расеі. Вялікіх гуртавых складоў зь вялікім выбарам тавару, як, напрыклад, у Маскве, паводле бізнэсоўкі, у Беларусі няма.

Тым ня менш, кажа яна, ніхто ўказ № 222 адмяняць ня будзе, і яго варта ўспрымаць як факт.

«З дакумэнтамі я працую ўжо два гады, але для мяне галоўнае цяпер — вялікія штрафы», — кажа суразмоўніца.

«Для індывідуальных прадпрымальнікаў яны ад 100 да 200 базавых. Уявіце сабе: прыйдуць да мяне з праверкай і абавязкова нешта знойдуць. Гэта ўжо практыка такая. І 21 мільён мне штрафу з магчымай канфіскацыяй тавару. Во каб зьменшылі іх. І яшчэ праблема: у людзей грошай няма. Гэта дужа адчуваецца. Цяпер калі купляюць, дык толькі тое, што трэба».

## Выплаціць штраф у 3,6 мільярда — гэта не для дробных прадпрымальнікаў

«Тут да Новага году палаткі сталі ў тры рады, — кажа яшчэ адзін гандляр з адчыненага павільёну. — А павільёнаў бачыце колькі зачынена — гэта ўсё праз 222 указ. Дый я сам зьбіраюся зачыняцца. Што прывёз да Новага году з дакумэнтамі, паспрабую распрадаць. У людзей проста няма грошай. Глуха. Раней езьдзіў па тавар раз на тыдзень, а цяпер — раз на паўгода. Тут усе прадпрыемствы стратныя», — заяўляе гандляр.

Суразмоўца, аднак, заўважае, што ня ўсім у Шклове кепска. І прыгадвае нашумелую навіну пра былую намесьніцу дырэктара па маркетынгу акцыянэрнага таварыства «Александрыйскае». Яе вінавацілі ў перавышэньні службовых паўнамоцтваў і халатнасьці. Пабыўшы пад арыштам, яна пакрыла прадпрыемству страты ў памеры 3,6 мільярда рублёў.

«За тыдзень пагасіла тры мільярды шэсьцьсот тысяч рублёў недастачы. Во гэта заробкі, ня тое што ў нас прыбыткі», — з усьмешкай дзівіцца дробны бізнэсовец.

## Дзе купіць куртку даярка, у якой заробак не дацягвае да двух мільёнаў?

Наступная суразмоўніца — адна з рэдкіх на рынку, хто прадае шырокі асартымэнт адзежы. Суправаджальныя дакумэнты на тавар, кажа, ёсьць.

«Наагул дужа малая пакупніцкая здольнасьць у людзей. Мы ж працуем ад заробкаў. Як выплачваюць іх, людзі нешта набываюць. А цяпер у людзей няма грошай. А калі б былі, дык і гандаль у нас быў бы жывейшы», — тлумачыць сытуацыю прадпрымальніца.

«Шмат пакупнікоў просяць, курткі каб прывезла. Але без дакумэнтаў іх прывезьці не магу, а ў Беларусі такой адзежы няма. На маленькіх гуртавых складах тое, што нам патрэбнае і ёсьць, дык кажуць: „Гэта ня вам, адклалі іншым“. Прапануюць тавар дзесяцігадовай даўніны,

*(Заканчэнне на стар. 7)*

# «НІ ПРАЦЫ, НІ ГРОШАЙ, НІ ТАВАРАЎ. КРЫЗІС»

*(Заканч. Пачатак на стар. 6)*

— працягвае суразмоўніца. — Мы ж тут арыентуемся на пакупнікоў зь вёсак. Яны просяць, каб таньней, а з дакумэнтамі даражэй выходзіць. Пакупнікі дужа агрэсіўна настроеныя. Клянуць усіх. Усё гэта дужа сумна, а каб яшчэ крызісу не было. У даярак заробак мільён васямсот, а яны ж сядзяць на працы ад ранку да вечара».

## У пакупнікоў няма грошай на абновы, хоць залатое вязі

У яшчэ адным павільёне з абуткам заявілі: «Палатак няма, дык усё правільна. Дакумэнты адсутнічаюць — значыцца, ня могуць гандляваць. Раз указ выдалі, дык куды ўжо падзецца. Трэба яго выконваць. Пакупнікоў стала меней, вядома ж. У іх проста няма грошай. Заробкі невялікія. Што паробіш, крызіс паўсюль».

«Нават калі б цяпер усе паадчыняліся і выйшлі з палаткамі, то сытуацыя выглядала б такой жа, — настойваюць на сваёй пазыцыі суразмоўцы. — Вы ж паглядзіце, у нас ніводнага пакупніка. А ўявіце, каб побач нехта прадаваў яшчэ такія ж чаравікі. Пэрыфэрыя памірае. Людзі едуць у вялікія гарады. Нас задушылі гіпэрмаркеты».

Гандляры — жанчыны і малады хлопец — прызнаюць: указ 222 — удар па вяскоўцах. Аднак, заўважаюць суразмоўцы, такія пакупнікі хутка прыстасуюцца да сытуацыі і знойдуць выйсьце.

«Зьявяцца фірмы, якія будуць працаваць з малой нацэнкай, і ў іх будуць купляць. Аднак і гэта нічога ня зьменіць, бо народ і так нічога не купляе, хоць залатое вязі сюды. Проста цяпер мы ў з... усе. Каб указу не было, дык лепей, можа б, было, але ён ёсьць. І пра яго папярэджвалі год таму, але многія паехалі ў Маскву дакупляць пад свае рэшткі тавар. Той, хто хоча працаваць, год таму пачаў шукаць дакумэнты, а ня лыпаў вачыма. Дык будзе гэты ўказ ці не, нічога ўжо ня зьменіцца», — выказваецца прадпрымальнік.

## Пакупнікі: Ні працы, ні грошай, ні адзежы

Тым часам жыхары Шклова, наведнікі рэчавай часткі мясцовага рынку, не ў захапленьні ад зачыненых павільёнаў і зьніклых палатак. Адсутнасьць таннага прывазнога тавару для іх пакуль — неадольная праблема і незразумелы крок улады. Яны разгубленыя.

«Гэта дужа кепска. Шклоў — малы горад, і рынак — адзінае месца, дзе можна было нешта з вопраткі нагледзець, — выказвае сваё стаўленьне да сытуацыі маладая жанчына, кіруючыся на рынак. — Цяпер дзе адзявацца — гэта праблема. Многія задаюць гэтае пытаньне і не знаходзяць адказу. Мо неяк усё зьменіцца, спадзяёмся. У крамах усё дорага. Свайму дзіцяці я купляла палову прывазнога, палову беларускага, але беларускае дарагое».

«Цяпер будзем адзявацца ў краме, — зь відавочным раздражненьнем рэагуюць на цікаўнасьць журналіста наступныя суразмоўцы, маладыя хлопец і дзяўчына. — Так, там даражэй, але вы адкажыце: дзе тады адзявацца, калі ўсё пазачынянае? Куды са Шклова ехаць? Гэта яшчэ які ўдар для людзей. Тут жа можна было купіць таньней. Ды за што купляць? Ні працы, ні грошай, ні адзежы. Крызіс».

## Хоць парадак навядуць

Былі і іншыя меркаваньні — у падтрымку 222 указу. Аргумэнтавалі тым, што трэба навесьці парадак.

«Я не апранаўся на рынку. Толькі з крамаў купляў. Там хоць даражэй, але якасьней, — выказваецца наступны суразмоўца. — Наш рынак даўно трэба было выводзіць са стану каменнага веку. У нас прадаецца тут невядома што і невядома дзе набытае».

Малады хлопец, аднак, ня здолеў адказаць на пытаньне, дзе набываць адзежу людзям, у якіх




няма за што купляць крамнае.

Гэта праблема для маладых, а нам ужо шмат ня трэба — старое даносім, кажуць сталага веку жанчына і мужчына.

«А я хачу вам сказаць, што тавар з палатак быў, відаць, закуплены дзесяць гадоў таму, а цэны цяперашнія ставілі. А наагул мы з рынку не адзяваліся. Старое даношваем, — кажа жанчына.

«А парадак трэба наводзіць у гэтым гандлі, — дадае мужчына — Там жа беспарадку колькі было».

Ня скончыўшы размовы, суразмоўнікі разьвіталіся.

Нядаўна насупраць шклоўскага Дому культуры паставілі помнік савецкаму актору, выхадцу са Шклоўскагау раёну Пятру Алейнікаву. Ён увекавечаны ў рванай цяльняшцы (фрагмэнт з савецкай кінастужкі «Трактарысты»). На твары — вясёлая разгубленасьць. Самі шклоўцы таксама выглядаюць разгубленымі, толькі весялосьці не назіраецца.

Згодна з 222 указам, прадпрымальнікі могуць гандляваць таварамі лёгкай прамысловасьці, завезенымі з-за мяжы, толькі пры наяўнасьці дакумэнтаў, якія пацьвярджаюць якасьць і паходжаньне тавараў.

***“Радыё Свабода”***

## Анекдот дня

— В чем ты хранишь деньги? В долларах или евро?

— В воспоминаниях.

Фразу «Нужно еще немного потерпеть» скоро занесут в Конституцию РБ.

# БЫЛЫ ДЫРЭКТАР-КАРУПЦЫЯНЕР УЗНАЧАЛІЎ СВК

**Былы дырэктар Бабруйскага мясакамбіната Віктар Хадасевіч днямі прызначаны выконваючым абавязкі старшыні СВК “Ліпаўка” у Хоцімскім раёне.**

У траўні 2015 годзе Віктар Хадасевіч быў асуджаны Бабруйскім судом да двух гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў выпраўленчай калоніі пасіленага рэжыма і штрафа ў памеры 18 мільёнаў беларускіх рублёў за карупцыйнае злачынства. Згодна рашэння суда, Хадасевіч быў тэрмінам на тры гады пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распадарчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў.

Разам з Хадасевічам да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады і штрафа ў памеры 18 мільёнаў рублёў была асуджана галоўны тэхнолаг Бабруйскага мясакамбіната Аксана Дзыгун.

Віктар Хадасевіч і Аксана Дзыгун былі абвінавачаны ў замаху на крадзёж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі , здзейсненым групай асоб па папярэдняй змове.

Падчас следства і суда было ўстаноўлена, што раніцай 18 снежня 2014 года Хадасевіч на сваім працоўным месцы даў указанне галоўнаму тэхнолагу падрыхтаваць для яго для навагодніх святаў па некалькі батонаў вэнджанай і варанай каўбасы, вэнджаныя мясныя вырабы, фарш, мяса, языкі і іншую прадукцыю. Дзыгун, у сваю чаргу, дала адпаведныя рапараджэнні-начальніку каўбасна-кулінарнага цэха і іншым падначаленым.

Прадукты патаемна перанеслі ў гараж на тэрыторыі прадпрыемства, у службовы мікрааўтобус дырэктара. Кіроўцу Хадасевіч даў указанне выехаць з тэрыторыі прадпрыемства і пакінуць аўтамабіль каля адміністрацыйнага будынка камбіната. Падчас выезда праз прахадную аўтамабіль быў затрыманы супрацоўнікамі дэпартамента аховы. Мясапрадукты на суму 1 904 140 рублёў былі канфіскаваны.

Сам Віктар Хадасевіч у судзе сваю віну не прызнаў. Ён адпрацаваў на пасадзе дырэктара Бабруйскага мясакамбіната толькі каля паўтара мясяца, да гэтага Хадасевіч два гады працаваў на прадпрыемстве галоўным інжынерам, а папярэдне займаў іншыя пасады.

Дарэчы, зараз Следчым упраўленнем УСК па Магілёўскай вобласці завершана расследванне крымінальнай справы ў адносінах папярэдніка Хадасевіча на пасадзе дырэктара Бабруйскага мясакамбіната, які абвінавачваецца ў нанясенні стратаў прадпрыемству на суму 33 мільярды рублёў у перыяд з верасня 2009 г. па кастрычнік 2014г..

Большасць гаспадарак Хоцімскага раёна знаходзяцца не ў лепшым стане і маюць вялікія цяжкасці з своечасовай выплатай заробкаў сваім працаўнікам.

За апошні месяц у Беларусі ўжо некалькі былых чыноўнікаў і кіраўнікоў, якія раней былі асуджаны за карупцыйныя злачынствы, прызначаны кіраваць іншымі прадпрыемствамі.

Так, 26 студзеня стала вядома, што датэрмінова вызвалены і прызначаны дырэктарам УКСП “Пятровічы” у Мінскай вобласці былы намеснік Генеральнага пракурора Беларусі Аляксандр Архіпаў.

Датэрмінова вызвалены таксама асуджаны да васьмі гадоў пазбаўлення волі былы генеральны дырэктар “Магілёўдрэва” Андрэй Усаў. Зараз Андрэй Усаў прызначаны выканаўчым дырэктарам па вытворчасці на магілёўскае прадпрыемства-банкрот “Строммашына”.

А экс-намеснік старшыні Баранавіцкага гарвыканкама, які быў




асуджаны да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі пасіленага рэжыма за перавышэння ўлады і службовых паўнамоцтваў, зараз стаў дырэктарам Баранавіцкага камбіната надомнай працы.

Былы старшыня Чашніцкага райвыканкама Уладзімір Булай, які быў арыштаваны за карупцыйнае злачынства ў 2015 годзе, зараз працуе кіраўніком акцыянернага таварыства “Кляновічы” у суседнім з нашым Крупскім раёне.

Ну што тут скажаш, гэта калі просты “рабацяга” украдзе мех мукі, дык сядзе ўсур’ёз і надоўга, а пазней ніякай працы не знойдзе. Ну а тых, хто “рохкае ля кармушкі” (па вобразнаму выразу Аляксандра Рыгоравіча), на доўга не садзяць, і пасля вызвалення яны маюць магчымасць уладкавацца ля новай кармушкі і працягваць “рохкаць” далей.

Такая вось своеасаблівая барацьба з карупцыяй у нашай краіне атрымліваецца…

***Сяргей Семяновіч***

### Анекдот дня

— Что вы обычно делаете, когда падает курс национальной валюты?

— Грущу.

— Простите, а вы точно министр финансов?

Рэгіён

Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 11.02.2016 г. у 20 -00.